БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

22 кастрычніка 1994 г.
Субота
№ 113(13830)
Кошт у розніцу 25 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



## Кур'ер "ЧЗ"

### З ПАРЛАМЕНЦКАГА ДЗЁННІКА

***Працягвае работу шаснаццатая сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі. На тыдні разгледжаны шэраг пытанняў. Учора дэпутаты вырашылі перапыніць пленарныя пасяджэнні да 8 лістапада.***

Значнай падзеяй стала прыняцце ў сераду пастановы, якая прызнае адзіным законным плацежным сродкам Рэспублікі Беларусь беларускі рубель, а ў наяўным абарачэнні — разліковыя білеты Нацыянальнага банка. Яму дадзена права ўстанаўліваць абменны курс беларускага рубля да расійскага і валют іншых дзяржаў, а таксама парадак валютнага рэгулявання і абавязковага продажу ў адносінах да валют былых саюзных рэспублік. Такім чынам, можна лічыць, зроблены першы крок да паўнамоцнай нацыянальнай валюты. Дарэчы, пад час абмеркавання праекта пастановы аб плацежным сродку дэпутаты ўзнімалі пытанне: чаму застаецца ў абарачэнні разліковы білет, а не ўводзіцца свая валюта. Станіслаў Багданкевіч матываваў такое рашэнне адсутнасцю з-за вялізнай інфляцыі магчымасці друкаваць беларускую валюту за мяжой. Пытанне аб межах крэдытнай эмісіі так і засталося нявырашаным. Нацбанк прапаноўваў зацвердзіць яе ў памеры 345 мільярдаў рублёў. Вярхоўны Савет унёс змяненні і дапаўненні ў падатковае заканадаўства, якое стымулюе пашырэнне экспарту. У прыватнасці, шэраг заводаў, што пастаўляюць за межы Беларусі трактары, грузавыя аўтамабілі, халадзільнікі, тэлевізары, вызвалены ад уплаты акцызаў. Зацверджаны баланс Нацыянальнага банка за 1993 год і прыбытак у памеры 23 мільярдаў рублёў. Такім чынам, 80 дэпутатаў вырашылі "дагнаць цягнік" і паставілі свае подпісы пад зваротам у Канстытуцыйны суд з нагоды паправак, унесеных парламентам у закон аб мясцовым самакіраванні. У спісе 80-ці — прадстаўнікі самых розных палітычных плыняў і дэпутацкіх фракцый: Г.Карпенка, З.Пазьняк, А.Трусаў, М.Качан. Нованароджаная "прэзідэнцкая вертыкаль", здаецца, у бліжэйшы час пройдзе выпрабаванне на трываласць.

**Якаў ЯСЭПКІН.**

### ДОМ, АДКРЫТЫ ДЛЯ ЎСІХ

***У Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры, што знаходзіцца па праспекце газеты "Правда", адбылася сустрэча з журналістамі, якіх пазнаёмілі з бліжэйшымі планамі дзейнасці гэтага сумеснага нямецка–беларускага праекта.***

Акрамя шматлікіх культурных і адукацыйных праграм, цэнтр плануе стварыць уласны студэнцкі саюз. Ужо ў лістападзе для беларускіх студэнтаў плануецца правесці першы семінар на тэму "Студэнцкае самакіраванне ў краінах Еўропы". Прычым, студэнты змогуць не толькі займацца, але і адпачыць дзякуючы адкрытаму тут жа рэстарану "Вестфалія".

"Наш дом адкрыты ў архітэктурным плане — у ім шмат шкла і святла. Але мы хацелі б зрабіць яго адкрытым і для кожнага жыхара Беларусі", — сказаў на развітанне дырэктар цэнтра з нямецкага боку пан Петэр Юнге-Вентруп.

**Павел МЯГКОЎ.**

### Курсы валют на 21 кастрычніка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Прыор" | 6400 | 6650 | 4250 | 4430 |
| "Алімп" | 6200 | 6480 | 4105 | 4263 |
| "Дукат" | 6200 | 6500 | 4100 | 4400 |

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 156

*АБ ПАВЫШЭННІ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ*

1. Устанавіць з 1 лістапада 1994 г. мінімальную заработную плату ў памеры 20 тыс. рублёў, а тарыфную стаўку першага разраду — 22 тыс. рублёў.

Дзеянне гэтага пункта не пашыраецца на суб'екты гаспадарання, якія маюць стаўку першага разраду вышэй за стаўку, вызначаную дадзеным указам.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць рашэнне аб пераглядзе з 1 лістапада 1994 г. памеру заработнай платы, пенсій, дапамог і стыпендый, забяспечыўшы пры гэтым выкананне паказчыкаў, прадугледжаных праграмай неадкладных мер па выхаду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**

**А.ЛУКАШЭНКА.**
**17 кастрычніка 1994 г.**
**г.Мінск.**

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N 155

*АБ ЗВАЛЬНЕННІ Ў ЗАПАС ВАЕННАСЛУЖАЧЫХ, ЯКІЯ АДСЛУЖЫЛІ ЎСТАНОЎЛЕНЫЯ ТЭРМІНЫ, І АБ ЧАРГОВЫМ ПРЫЗЫВЕ ГРАМАДЗЯН НА ТЭРМІНОВУЮ ВАЕННУЮ СЛУЖБУ Ў КАСТРЫЧНІКУ—СНЕЖНІ 1994 г.*

1. Звольніць у запас з узброеных сіл, пагранічных, унутраных, чыгуначных войскаў і іншых воінскіх фарміраванняў Рэспублікі Беларусь ваеннаслужачых тэрміновай службы, якія адслужылі ўстаноўленыя тэрміны.

Прызваць у кастрычніку—снежні 1994 г. на тэрміновую ваенную службу ва ўзброеныя сілы, указаныя войскі і воінскія фарміраванні Рэспублікі Беларусь грамадзян мужчынскага полу, якім да дня прызыву споўнілася 18 гадоў і якія не маюць права на адтэрміноўку, а таксама грамадзян старэйшага прызыўнога ўзросту, страціўшых права на адтэрміноўку.

Прызыўнікі, якія пацярпелі ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, накіроўваюцца для праходжання ваеннай службы ў воінскія часці, што не звязаны з крыніцамі іанізуючага выпраменьвання, звышвысокімі частотамі, кампанентамі ракетнага паліва і не знаходзяцца на радыеактыўна забруджаных тэрыторыях.

2. Выканаўчым камітэтам абласных, гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў, ваенным камісарыятам забяспечыць прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

3. Міністэрству транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь забяспечыць выдзяленне па заяўках Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь неабходнай колькасці месцаў у пасажырскіх вагонах і перавозку прызыўнікоў.

4. Органам унутраных спраў па прадстаўленнях ваенных камісараў прымаць меры да вышуку асоб, якія ўхіляюцца ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, і да забеспячэння яўкі іх на прызыўныя пункты.

5. Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь да 1 лютага 1995 г. прадставіць прэзідэнту Рэспублікі Беларусь інфармацыю аб выніках прызыву.

6. Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**

**А.ЛУКАШЭНКА.**
**20 кастрычніка 1994 г.**
**г.Мінск.**

## МОЛАДЗЬ І ЧАС

### Пленум СМБ

У Мінску адбыўся І пленум Цэнтральнага камітэта і Цэнтральнай кантрольнай камісіі Саюза моладзі Беларусі.

Па асноўнаму пытанню "Аб рабоце Саюза моладзі Беларусі пасля XXXI з'езда і перспектывах развіцця арганізацыі на бліжэйшы перыяд" выступіў першы сакратар ЦК СМБ Сяргей Даронін. Ён адзначыў, што за 4 месяцы пасля з'езда СМБ рэспубліканскай арганізацыяй і пры яе ўдзеле праведзены шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку фестывалі моладзі "Лагер дружбы славянскіх народаў" і "Бе-Ла-Русь", арганізаваны ўрачысты прыём герояў Вялікай Айчыннай вайны, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прайшлі летнія турыстычныя злёты. Летам бягучага года арганізацыі СМБ накіравалі дзяцей і моладзь у лагеры працы і адпачынку. Дакладчык канстатаваў, што зараз усталёўваюцца трывалыя сувязі ЦК СМБ з дзяржаўнымі органамі і грамадскімі арганізацыямі, адміністрацыяй прэзідэнта, сродкамі масавай інфармацыі.

Пленум адобрыў прапанаваныя ў дакладзе асноўныя напрамкі па ўдасканаленню дзейнасці рэспубліканскай маладзёжнай арганізацыі. Гэта, у прыватнасці, фарміраванне вакол арганізацыі Саюза моладзі актыву на месцах, з тым, каб СМБ стаў стрыжнем усяго маладзёжнага руху і працаваў па праграмах, адпавядаючых патрабаванням часу. Пры ўстанаўленні міжнародных кантактаў больш актыўна павінны ўлічвацца імкненні маладзёжных арганізацый замежных краін да супрацоўніцтва з СМБ у самых розных накірунках, а таксама ў ажыццяўленні ўсебаковых праграм.

Пленум выказаў незадаволенасць з прычыны скасавання Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь як самастойнага дзяржаўнага органа, які ажыццяўляў каардынацыю і падтрымку дзейнасці маладзёжных грамадскіх арганізацый рэспублікі. У такіх абставінах Саюз моладзі Беларусі, як самая шматлікая арганізацыя, павінна ўзяць на сябе многія функцыі гэтага камітэта.

На пленуме востра паўстала пытанне аб сродках масавай інфармацыі, заснавальнікам якіх з'яўляецца СМБ. Удзельнікі пленума даручылі Бюро ЦК СМБ звярнуцца да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з просьбай аб аказанні дзяржаўнай падтрымкі адзінай у рэспубліцы беларускамоўнай маладзёжнай газеце "Чырвоная змена", якая хутка будзе адзначаць свой 75-гадовы юбілей.

У рабоце пленума прыняў удзел начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута.

Пленум выбраў другім сакратаром ЦК СМБ М.Карпінчыка, сакратаром ЦК СМБ — М.Яжову, у склад Бюро ЦК СМБ, акрамя сакратароў ЦК, увайшлі першыя сакратары абласных і Мінскай гарадской арганізацый СМБ, сакратар камітэта СМБ БДПА. Зацверджана структура апарату ЦК СМБ.

**Ул. інф.**

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

### Нас пачынаюць разумець?

Нядаўна ўрадавая дэлегацыя нашай краіны пабывала з рабочым візітам у Злучаных Штатах Амерыкі. Пад час дзелавых сустрэч у Міністэрствах фінансаў, сельскай гаспадаркі, гандлю, абароны, а таксама ў Міжнародным валютным фондзе абмяркоўваліся праблемы беларускай эканомікі, шукаліся шляхі выхаду яе з крызісу. У прыватнасці, дасягнута дамоўленасць аб выдзяленні Беларусі 150 мільёнаў даляраў, якія амерыканскі бок прадастаўляе на развіццё бізнесу. Дваццаць мільёнаў з гэтай сумы "працуюць" ужо. Дасягнута згода на будаўніцтва ў Мінску Бізнес-цэнтра. Адным словам, дзелавыя колы Амерыкі падтрымліваюць курс рыначных рэформ, дэмакратызацыі грамадства. Вось, калі казаць коратка, галоўны вынік візіту ў ЗША.

Уласна пра гэта ішла гутарка на прэс-канферэнцыі, якую правёў віцэ-прэм'ер Міхаіл Чыгір. Дакладваючы аб выніках сустрэч урадавай дэлегацыі з дзелавымі коламі ЗША, ён быў настроены аптымістычна. Амерыканскія ўкладанні ў нашу эканоміку будуць. Беларусь можа разлічваць таксама на дапамогу краін-донараў. Што тычыцца фінансавання канкрэтных праграм, то амерыканцы наважаны падтрымаць санацыю шэрагу дзяржпрадпрыемстваў, зацікаўлены ў нарошчванні аб'ёмаў нашых інвестыцыйных праектаў, 20 мільёнаў даляраў Міністэрствам сельскай гаспадаркі ЗША будзе выдзелена на развіццё нашай хлебаробска-жывёлагадоўчай галіны.

Як вядома, асноўная мэта кансультацый, пазык, якія даюцца Міжнародным валютным фондам, — гэта падтрымка рэформ, звядзенне інфляцыі да нізкага стабільнага ўзроўню. Вось і пад час апошняга візіту ў абмен на фінансавую падтрымку сярод іншых "пажаданняў" Міжнародны валютны фонд патрабуе ад Беларусі зніжэння інфляцыі да канца 1995 года да ўзроўню аднаго працэнта. Ці пад сілу гэта нашай эканоміцы — пакажа час. Ва ўсякім разе, адчувалася, новы ўрад верыць у неабходнасць прадаўжэння эканамічных рэформ.

А чым тлумачыцца прыхільнасць амерыканцаў у пашырэнні супрацоўніцтва з нашай рэспублікай? Як можна было меркаваць па выказваннях віцэ-прэм'ера Міхаіла Мясніковіча, міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько крокам да паглыблення адносін сталі канкрэтныя захады нашай краіны па шляху рэформ.

Канешне, праблем у беларускіх рэфарматараў застаецца нямала, і ўсе яны складаныя, але, ёсць упэўненасць, што ў рэспубліцы гэтыя праблемы могуць вырашацца больш паспяхова, чым у іншых краінах СНД, калі Міністэрства фінансаў ЗША пажадае ў першую чаргу працаваць з намі ў справе трансфармацыі эканамічнай сістэмы.

Адным словам, дзелавыя адносіны між дзвюма краінамі паглыбляюцца.

**Валянцін БАРЫСЕВІЧ.**

## ПАДПІСКА-95

### ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ

Пачалася падпіска на 1995 год. Мы спадзяемся, што сяброў у "Чырвонай змены" менш не стане. Бягучы год паказаў, што беларуская маладзёжная газета карыстаецца ў чытачоў попытам. З квартала ў квартал тыраж "Чырвонкі" павялічваўся. А гэта значыць — праца нашага калектыву заўважана і ацэнена. Што, безумоўна, вельмі прыемна і спрыяе жаданню зрабіць сваё выданне яшчэ больш цікавым.

Па-ранейшаму галоўным прынцыпам газеты будзе справа адраджэння нашай Бацькаўшчыны. У рубрыцы "Сто артыкулаў з гісторыі Беларусі" чытачы пазнаёмяцца з малавядомымі старонкамі мінуўшчыны. Захоўваецца рубрыка "Цёмны бок Месяца", якая палюбілася многім сябрам газеты. У рэдакцыйнай папцы для яе падабраны матэрыялы са шматлікімі таямніцамі пра навакольны свет. Пытанні эканомікі, палітыкі, сацыяльныя праблемы, медыцынскія парады — усё гэта будзе прысутнічаць на старонках "Чырвонай змены".

Падпіску на нашу газету можна аформіць адразу на паўгода, кошт яе 6 тысяч рублёў. А штомесячная падпісная цана 1 тысяча. Гэта менш, чым за іншыя рэспубліканскія выданні.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА** Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **63129** (індэкс выдання)

**ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА**

| Кошт | падпіскі | ____рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____рублёў. | | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

## "Суперчэннэл"

### ВУЛІЧНАЯ ТРАГЕДЫЯ Ў СЕУЛЕ

*У час ранішняга руху ў сталіцы Паўднёвай Карэі Сеуле абваліўся цэнтральны мост горада.*

Аўтобус і 4 аўтамабілі трапілі ў ваду. Загінулі 42 чалавекі, 23 атрымалі цяжкія раненні. Прычына абвалу моста пакуль не высветлена.

### СКАНДАЛ У АНГЛІЙСКІМ КАРАЛЕЎСТВЕ

*Джон Мэйджар і яго кабінет маюць дачыненне да новага скандалу.*

Прычынай паслужыў артыкул у газеце "Gardian", дзе прэм'ер-міністр і іншыя члены ўрада абвінавачваліся ў карупцыі і крадзяжы грошай. Асабліва "дасталося" міністэрству гандлю. Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі адхіляе ўсе абвінавачванні.

## "Уорлднэт"

### ТУНЕЛЬ ЗЛУЧЫЦЬ КРАІНЫ

*Прэзідэнт Францыі Франсуа Мітэран прыбыў у Іспанію для адкрыцця новага тунеля, які злучыць французскі горад Тулузу з іспанскай Барселонай.*

На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця французскія і іспанскія прадстаўнікі адзначылі, што тунель будзе мець вялікае значэнне для ўмацавання супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі.

### КАЛІ НЯМА АРГУМЕНТАЎ

*На пасяджэнні італьянскага парламента дэбаты аб будучыні італьянскага тэлебачання прывялі да бойкі.*

Дэпутаты левага прагрэсіўнага крыла абвінавацілі кааліцыйную партыю на чале з прэм'ер-міністрам Сільвіо Берлусконі ў тым, што тэлебачанне вельмі часта неаб'ектыўна ацэньвае падзеі. Спрэчка дасягнула такога напалу, што прама ў зале пасяджэнняў паміж дэпутатамі завязалася бойка. Таму пасяджэнне было вымушана спыніць работу.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

Дзяжурныя па выпуску
перакладчык
Ларыса ДУДАРУК,
ЛюдмілаКАХАВЕЦ,
рэдактар
НаталляВАЛАКІДА.

